ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 38 (1675) | Пятніца, 11 мая 1962 года | Цана 4 кап.

**У ГЭТЫМ НУМАРЫ**

НА ЎДАРНЫМ ФРОНЦЕ СЯМІГОДКІ

ПРАЦЯГ РАЗМОВЫ АБ ТЭАТРАЛЬНЫМ МАСТАЦТВЕ

ДА 80-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Я. КУПАЛЫ І Я. КОЛАСА

ТВОРЧАСЦЬ САМАДЗЕЙНЫХ КАМПАЗІТАРАЎ

АПАВЯДАННЕ В. ЭГЕРАТА

Беларуская літаратура ў Чэхаславакіі



На плошчы Перамогі ў Мінску 9 мая. Фота М. РУБІНШТЭЙНА.

## У ГОНАР ДНЯ ПЕРАМОГІ

Працоўныя нашай краіны шырока адзначылі Дзень перамогі.

Урачысты вечар, прысвечаны 17-й гадавіне перамогі над фашысцкай Германіяй, адбыўся ў сталіцы нашай Радзімы Маскве, у Калоннай зале Дома Саюзаў. З вялікім уздымам прысутныя выбіраюць ганаровы прэзідыум у складзе Прэзідыума ЦК КПСС на чале з М. С. Хрушчовым. Вечар адкрыў Маршал Савецкага Саюза В. Д. Сакалоўскі.

Успамінамі аб неўміручых подзвігах нашых воінаў у гады Вялікай Айчыннай вайны падзяліліся на вечары Герой Савецкага Саюза генерал-палкоўнік артылерыі ў адстаўцы Н. М. Хлебнікаў, Героі Савецкага Саюза Н. В. Папова, В. В. Паўлаў і І. І. Бачароў, палкоўнік запасу І. Ф. Хоміч. З прывітальнымі словамі да прысутных і ў іх асобе да ветэранаў вайны і воінаў Савецкай Арміі выступіў сакратар МГК КПСС А. Е. Бірукоў.

З вялікім уздымам удзельнікі вечара прынялі прывітальнае пісьмо Цэнтральнаму Камітэту КПСС.

Урачыста адзначылі Дзень перамогі працоўныя Беларусі. У рабочых клубах шматлікіх прадпрыемстваў, у хатах-чытальнях і дамах культуры адбыліся вечары, прысвечаныя неўміручаму подзвігу савецкага народа. Бібліятэкі рэспублікі наладзілі выстаўкі, вітрыны, мантажы аб слаўнай гадавіне.

У сталіцы рэспублікі тысячы працоўных прыйшлі ў гэты дзень на плошчу Перамогі і ўсклалі вянкі да падножжа помніка-абеліска воінам і партызанам.

Увечары ў майскае неба сталіцы ўзвіліся каляровыя агні салюту ў гонар гістарычнай перамогі.

## ПАДАРУНАК МУЗЕЮ

У Мінску знаходзіцца адзіны ў нашай краіне Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. У ім сабрана шмат экспанатаў, якія сведчаць аб гераічнай барацьбе савецкага народа супраць гітлераўскіх захопнікаў.

У гэтыя дні ў музеі людна. Сюды прыходзяць рабочыя, калгаснікі, воіны Мінскага гарнізона, шматлікія госці Беларусі. Экскурсаводы расказваюць наведвальнікам пра подзвіг воінаў Савецкай Арміі ў справе разгрому захопнікаў, пра партызанскі рух у рэспубліцы.

Нядаўна ў музеі выстаўлен яшчэ адзін экспанат — невялічкі бюст Уладзіміра Ільіча Леніна. Гісторыя яго такая. У 1941 годзе жыхарка вёскі Забалацце Аршанскага раёна Аляксандра Кірылаўна Шчэрба схавала бюст Ільіча, які знаходзіўся ў адным з пакояў сельсавета. Амаль чатыры гады яна беражліва захоўвала дарагую рэч. У дзень вызвалення вёскі ад ворага яна прынесла бюст у сельскі Савет. Нядаўна работнікі сельсавета перадалі бюст Ільіча на захаванне ў музей.

# ПОДЫХ ВЯСНЫ І ЧАСУ

**З БЛАКНОТА ЖУРНАЛІСТА**

Прыгожа раніцай на Сожы. Здаецца, што ўночы тут гарэла мноства вогнішчаў і дым ад іх зараз сцелецца берагам ракі. З таго берагу ўзыходзіць сонца і прасвечваецца нібы праз дымавую заслону, праменні яго ледзь прабіваюць густую тоўшчу туману. Клубы лёгкай пары ўзнімаюцца і з палетку, што распасцёрся непадалёк ад ракі.

— Дыхае зямля,— гаворыць Уладзімір Аляксеевіч Кончыц, аграном калгаса «Кастрычнік» Веткаўскага раёна, з якім мы аглядаем палі, цікавімся працай механізатараў.— На поўныя грудзі дыхае, — пасля некаторай паўзы дадае ён.

Сонца падымаецца вышэй. Туман паступова растае. І, нібы выхваляючыся сваёй прыгажосцю, заблішчала люстраная гладзь вады, пераліваючыся пад праменнямі ранішняга сонца. Недзе там, на лузе, азвалася запозненая качка. Высока ў небе над полем зазвінеў жаўранак. Але звон яго патанае ў рокаце матораў. Відаць, раней яго падняліся калгасныя механізатары. Пэўна, да спадобы хлебаробам сустракаць сонца ў полі.

Так, не «адпачываюць» сталёвыя коні ў калгасе ў такі адказны веснавы час. Дзень і ноч яны працуюць — уначы рыхтуюць глебу, а ўдзень сеюць ярыну, развозяць і раскідваюць угнаенне, каб затым яго заараць. Нядоўгая перадышка бывае тады, калі мяняюцца змены. Кароткая размова, тэхагляд, праверка асноўных вузлоў агрэгата, іх работы — і трактар зноў ідзе ў баразну.

Якраз і сустрэліся ў такі час мы з трактарыстамі Іванам Готавым і Мікалаем Шатанавым. Першы працаваў у начную, другі станавіўся на яго месца.

— Ну як, ніякіх непаладкаў не было? — запытаў Мікалай Шатанаў у свайго напарніка.

— Сам бачыш, — задаволена адказаў той і рукой паказаў на палетак.

Участак гектараў на восем, толькі што ўзараны, дыміўся пад праменнямі сонца.

— Што ж, пастараюся і я так трымаць, — з гэтымі словамі Мікалай Шатанаў ірвануў за рамень, і цішыню парушыў прарэзлівы рокат пускавога маторчыка. Але вось трактар запрацаваў глуха і паважна, а потым рушыў наперад, пакідаючы за сабой шырокі чорны след.

Так трымаць! Працаваць так, каб своечасова пасеяць яравыя, а пасля арганізаваць узорны догляд пасеваў, — з такой думкай працуюць хлебаробы калгаса. І ў авангардзе барацьбы за высокі ўраджай, як правіла, ідуць механізатары.

Недалёка ад вёскі Шарсцін на ўчастку першай паляводчай брыгады сеюць кукурузу трактарысты Максім Шаўцоў і Сямён Зыкаў. Тут жа знаходзіцца і брыгадзір Сяргей Іванавіч Старавойтаў. Разам з аграномам яны правяраюць, як захінаецца глебай насенне, ці атрымліваюцца правільныя квадраты.

— Усё ў парадку, — канстатуе Уладзімір Аляксеевіч.

А інакш і быць не магло. Усе члены чатырох звенняў, якія будуць вырошчваць сёлета ў гаспадарцы кукурузу на плошчы 275 гектараў, зімой прайшлі спецыяльную падрыхтоўку, адрамантавалі і прывялі ў баявую гатоўнасць тэхніку. Кожнаму звяну прыданы трактар «Беларусь», кукурузная сеялка, культыватар і іншы неабходны прычэпны інвентар. На рукі кожнаму звеннявому праўленне арцелі выдала аграпашпарт. У ім, у прыватнасці, запісана, дзе і ў якія тэрміны трэба сеяць кукурузу, якія агратэхнічныя работы трэба выканаць на працягу ўсяго вегетацыйнага перыяду, якая вызначана аплата кукурузаводам за атрыманне правільных квадратаў, за ўзорны догляд пасеваў, за дасягненне планавай і звышпланавай ураджайнасці, колькі ўгнаення пакладзена на той ці другі ўчастак. Не мала. На кожны гектар заарана ўжо ў сярэднім па 35 тон торфагноевага кампосту.

— Аграпашпарты для нас — своеасаблівыя компасы, — гавораць механізатары. — Яны і падганяюць нас і адначасова прымушаюць сачыць за якасцю выкананай работы. Ад гэтага ж залежыць і аплата нашай працы.

У якую б брыгаду ні наведаўся, куды б ні завітаў у калгасе, усюды натхнёна працуюць людзі.

— Вясна для нас сёлета асаблівая, — гавораць яны. — Гэта першая вясна пасля XXII з'езда партыі і сакавіцкага Пленума ЦК КПСС.

І сапраўды, сёлета вясна асаблівая для хлебаробаў рэспублікі. На змену траваполлю на нашы палі прыйшлі прапашныя культуры. Усюды пашыраны пасевы кукурузы, цукровых буракоў, бабовых. Каб дабіцца рэзкага павелічэння прадуктаў жывёлагадоўлі і паляводства, калгасы і саўгасы сёлета робяць асноўную стаўку на гэтыя тры кіты, на тры асноўныя кармавыя культуры.

Праўда, пашырэнне пасеваў прапашных патрабуе і большай стараннасці, большага напружання. І хоць вясна была зацяжной, хлебаробы навучыліся абганяць час, працаваць так, каб ён адступаў перад імі.

Іменна так і працуюць трактарыст Іван Смірноў і Генадзь Жыгалка з калгаса «Бальшавік» Ваўкавыскага раёна. Ранняй вясной, рыхтуючы глебу пад яравыя, яны на трактары «ДТ-54» у счэпе з двума культыватарамі за дзве змены правадзілі культывацыю глебы на плошчы 60 гектараў. Працуючы пасля на ворыве, механізатары кожны дзень перавыконваюць зменныя заданні пры захаванні высокай якасці.

Хіба Генадзь Жыгалка і Іван Смірноў выключэнне? Так у калгасе працуюць усе механізатары, усе паляводы.

А ўзяць саўгас «Гнезна» таго ж раёна. Толькі кукуруза сёлета тут займае 1110 гектараў ды 450 гектараў цукровыя буракі. Колькі працы спатрэбіцца, каб пасеяць, апрацаваць і ўбраць толькі гэтыя культуры! І за вырошчванне іх узяліся саўгасныя механізатары. Каля 70 трактараў з самай вясны выйшла на палі ў саўгасе. Дзякуючы таму, што трактары працуюць у дзве змены, гаспадарка паспяхова завяршыла сяўбу ранніх яравых, цяпер шырокім фронтам вядзе сяўбу кукурузы і пасадку бульбы.

— Сёлета, як ніколі, працуюць нашы хлебаробы,— гаворыць начальнік Ваўкавыскага тэрытарыяльнага калгасна-саўгаснага ўпраўлення Васіль Пятровіч Капцелаў.— Многа дапамагаюць ім на месцах спецыялісты нашага ўпраўлення.

У час пасеяць. Гэтым жыве сёння і звеннявы механізаванага звяна па вырошчванню кукурузы Іван Парда з калгаса «Чырвоны Кастрычнік» Лельчыцкага раёна. Яго звяно вырошчвае сёлета «каралеву палёў» на плошчы 100 гектараў, у тым ліку трыццаць пяць гектараў на зерне. Атрымаць з кожнага гектара не менш 400 цэнтнераў кукурузы з пачаткамі ў малочна-васковай спеласці і 30 цэнтнераў зерня — такое абавязацельства механізатара. На заваяванне яго і вывеў ён свой трактар на палетак. Сяўба ідзе паспяхова.

— Ураджай будзе! — так гаворыць Іван Парда.

І чамусьці зноў успамінаюцца словы агранома Уладзіміра Аляксеевіча Кончыца:

— Дыхае зямля... На поўныя грудзі дыхае...

Так, дыхае зямля, дае свае жыватворныя сокі раслінам.

Дыханнем вясны, дыханнем нашага часу напоўнены сёння будні хлебаробаў.

Ул. ПРАВАСУД.

## Чацвёртая традыцыйная

Учора ў Мінску, у памяшканні Саюза пісьменнікаў БССР пачала работу IV традыцыйная міжрэспубліканская тэатразнаўчая канферэнцыя Прыбалтыкі і Беларусі.

Напярэдадні гэтага крытыкі, тэатразнаўцы і творчыя работнікі Латвіі, Літвы, Эстоніі і Беларусі пазнаёміліся з новымі спектаклямі ў тэатрах чатырох братніх рэспублік.

Канферэнцыю адкрыў міністр культуры БССР Р. Кісялёў. На парадку дня яе работы — праблема канфлікту ў сучаснай драматургіі і яго сцэнічнага ўвасаблення: даклады старшыні секцыі крытыкаў Латвійскага тэатральнага таварыства Ю. Паберзса, кандыдата філалагічных навук І. Ланкуціса (Літоўская ССР), кандыдата мастацтвазнаўства К. Каськ (Эстонская ССР), кандыдата мастацтвазнаўства Ул. Няфёда (Беларуская ССР).

Канферэнцыя працягнецца да 12 мая г. г. На ёй прысутнічаюць прадстаўнікі Усерасійскага тэатральнага таварыства — доктар мастацтвазнаўства Г. Гаян, кандыдат мастацтвазнаўства Ул. Фралоў. Адбудзецца абмеркаванне дакладаў і абмен думкамі па прагледжаных спектаклях.

## На сцэне Крамлёўскага тэатра

Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача выехаў у сталіцу нашай Радзімы Маскву для ўдзелу ва Усесаюзным фестывалі тэатраў юнага гледача, прысвечаным 40-годдзю піянерскай арганізацыі імя Ул. І. Леніна. На сцэне Крамлёўскага тэатра будуць паказаны спектаклі па п'есах «Рэвізор» М. Гогаля і «На граніцы» В. Белазёрава.



Полацкі нафтаперагонны — найвялікшая будоўля сямігодкі. На тысячы кіламетраў, праз усю краіну працягнуліся сталёвыя артэрыі, па якіх прыйдзе сюды «чорнае золата». А на заводзе поўным ходам ідзе мантаж абсталявання. Вось і кампрэсарны цэх забяспечваецца навейшым абсталяваннем, рыхтуецца ўступіць у строй.

Фота Ул. ЛУПЕЙКІ (БЕЛТА).

# ПАРОЛЬ ПАЭЗІІ

**Расказвае галоўны рэдактар зборніка «Дзень паэзіі 1962» Міхаіл ЛУКОНІН**

На агульным сходзе маскоўскіх паэтаў абмяркоўваўся праект зборніка «Дзень паэзіі. 1962». Карэспандэнт агенцтва друку Навіны Р. Анісімаў звярнуўся да галоўнага рэдактара зборніка паэта М. Луконіна з просьбай расказаць пра будучую кнігу.

— Калі мы задумвалі першы зборнік «Дзень паэзіі» ў 1958 годзе, — сказаў Міхаіл Луконін,— паэзію справядліва крытыкавалі за адставанне ад жыцця, за схематызм. За гэтыя гады змянілася вельмі многае. Гарачая цікавасць да паэзіі цяпер бясспрэчная.

Усё гэта ўскладае на нас асаблівую адказнасць. Зборнік «Дзень паэзіі» 1962 года задуманы, як правобраз «Часопіса паэтаў». Хочацца, каб ён не паўтараў папярэднія выданні. Вось чаму, апроч падборак і асобных вершаў, мы думаем змясціць рэцэнзіі на новыя кнігі і «антырэцэнзіі».

У кнізе будуць раздзелы «Новыя вершы», «Жывая хроніка», «З запісных кніжак паэтаў», «Палеміка», «Дэбюты маладых». Увойдуць у выданне і сатырычныя вершы, пародыі, эпіграмы. Мы таксама пазнаёмім чытача з паэтамі саюзных рэспублік, змесцім пераклады з зарубежнай паэзіі.

Я не сумняваюся, што ўсе творы, якія ўвойдуць у зборнік «Дзень паэзіі» гэтага года, будуць паэтычным адказам на жыццёва важныя праблемы нашай рэчаіснасці. У зборніку будуць прадстаўлены паэты розных пакаленняў — і тыя, хто ўвайшоў у літаратуру на зарану існавання Савецкай дзяржавы, і тыя, чый голас чытачы пачулі зусім нядаўна. Маладая савецкая паэзія цяпер вельмі цікавая. Яна развіваецца разумна, вызначаецца вялікім густам да навізны, да пошукаў. Савецкай паэзіі заўсёды былі ўласцівыя жыццёвасць, паглыбленая цікавасць да чалавека, да карэнных пытанняў сучаснасці. У паэзіі не выключана магчымасць сустрэчы з эпігонамі і пераймальнікамі, але я глыбока перакананы, што ў наш час проста немагчымы паэт-адзіночнік, раўнадушны да ўсяго, што яго акружае.

Радуе цікавасць маладых паэтаў і да формы. Прыгожа сталі пісаць у нас! Праўда, часам, розныя прыгажосці формы адбіваюцца на ўнутранай сіле верша, але ніхто не будзе адмаўляць, што ў павышэнні агульнага тонусу савецкай паэзіі многа зрабілі маладыя паэты. «Маладая» паэзія ўзнікла не сама па сабе. Яна была падрыхтавана ўсім ходам развіцця савецкай літаратуры. Здаровыя традыцыі адчуваюцца ў творчасці таленавітых паэтаў Белы Ахмадулінай, Уладзіміра Цыбіна, Уладзіміра Фірсава, Мікалая Благава, Мікалая Анцыферава. Я ўжо не гавару пра Яўгенія Еўтушэнку і Андрэя Вазнясенскага, якія сталі прызнанымі майстрамі.

Мне здаецца, што ў далейшым у нашай паэзіі будзе яшчэ большая разнастайнасць формы. Пурытанізм формы адпадае ўжо на нашых вачах.

— Маё пакаленне паэтаў, як і цяперашняя моладзь, — сказаў у заключэнне Луконін, — нямала папрацавала над разбурэннем кананічнага верша, але да гэтага часу і, думаю, на будучае застаюцца ў сіле словы Пушкіна, які пісаў, што паэзіі, вызваленай ад умоўнасці вершаскладання, мы яшчэ не ведаем...

...Міхаіл Луконін — паэт ваеннага пакалення. Яго першая кніжка вершаў згарэла ў жніўні сорак другога года пад той самай бамбардзіроўкай, якая спыніла жыццё яго маці. Кніга была ў друкарні, лісты яе разнесла гарачым ветрам выбухаў.

Праз шмат гадоў Луконін даў сваёй новай кнізе назву той, першай — «Вершы дальняга следавання».

Думаецца, што гэтую назву смела можна даць усёй паэзіі нашых дзён. Яна таксама ў дальнім следаванні. Яе маршрут той жа, што і ўсяго савецкага народа. Яе пароль — вясна!

АДН.

# ГАНЬБА АТАМНЫМ ВАР'ЯТАМ!

По зямлі ідзе вясна. Дзяўчаты з зеленгаса ў каляровых хусцінках садзяць уздоўж Ленінскага праспекта браткі. Ужо трэснулі пупышкі і маладое лісце цягнецца да сонца, а карэнні... карэнні дзесьці глыбока пад зямлёю аблыталі абломкі руін і іржавага жалеза, што яшчэ ляжаць там з вайны.

Вясна, блакітнае неба, усмешкі. І цень кладзецца на твары, і іншыя кветкі, сплеценыя ў вянкі, кладуцца на гранітныя пліты помніка Перамогі. І позіркі гнеўныя, як ніколі, і словы суровыя і поўныя абурэння: там, над акіянам расцвітаюць іншыя кветкі — страшэнныя кветкі смерці, і зямля скаланаецца ад ядзерных выбухаў.

Раніцаю газеты прыносяць весткі жыцця — у трубку пайшлі азімыя, у семнаццаты раз пераворваюць акопы лемяхі, перакаваныя з мячоў. Мы семнаццаць гадоў памятаем гэтыя акопы...

Раніцаю газеты прыносяць весткі смерці — працягваюцца выпрабаванні ядзерных бомб, працягваюцца злачынныя выбухі пад зямлёю і ў паветры, блакітным паветры вясны.

І побач са зводкамі з палёў — пратэсты, пратэсты, пратэсты, з усяго свету. Пратэстуюць Гавана і рабочы Парыж, пратэстуюць Сафія і Масква, пратэстуюць працоўныя Беларусі, старыя партызаны і моладзь, рабочыя і служачыя, пенсіянеры і школьнікі, пратэстуюць супраць тых, хто ўхіляецца ад мірных перагавораў, хто хоча грукатам выбухаў заглушыць голас чалавецтва, голас жыцця і вясны.

«Мы патрабуем у імя жыцця і будучыні юнацтва спыніць ядзерныя выбухі пад зямлёю і ў атмасферы, пакласці канец падрыхтоўцы ядзернай вайны, знішчыць запасы атамнай і вадароднай зброі.

Мы ўпэўнены, што людзі добрай волі, міралюбівыя сілы спыняць руку тых, хто бразгае атамнай зброяй.

«Ганьба амерыканскаму імперыялізму!», «Ганьба Кенедзі!», «Далоў ядзерную зброю!» — гэтыя словы сёння скандуе моладзь Беларусі на сваіх мітынгах, вечарах, сходах».

Подпіс — Камітэт маладзёжных арганізацый БССР.

«Сёння нашы пачуцці, наша сумленне кіпяць гневам, і нянавісцю супраць ворага ўсіх народаў — амерыканскага імперыялізму, які рыхтуе тэрмаядзерную вайну.

Далоў выпрабаванне ядзернай зброі!

Ганьба амерыканскаму імперыялізму!

Ганьба Кенедзі!» — заяўляе ў сваім пратэсце ад імя камсамольцаў, юнакоў і дзяўчат Беларусі Цэнтральны Камітэт ЛКСМБ.

Да міжнароднага рабочага класа звяртаюць свой заклік працоўныя рэспублікі ў заяве Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў, заклік, каб працоўныя масы, усе людзі добрай волі яшчэ цясней згуртавалі свае рады, каб аб'яднанымі намаганнямі паклалі канец тэрмаядзерным выбухам, сарвалі чалавеканенавісніцкія планы імперыялістычных агрэсараў.

«Аднавіўшы ядзерныя выпрабаванні, урад ЗША зрабіў правакацыйны выклік усім народам, — гаворыцца ў гэтай заяве. — Гэтыя выпрабаванні маюць на мэце ўзмацненне гонкі ўзбраенняў і абвастрэнне міжнароднага становішча, яны пагражаюць здароўю і бяспецы працоўных усяго свету».

Вясна ідзе па зямлі — вясна абнаўлення і надзей, вясна згуртаванасці працоўных усяго свету і ўсяго чалавецтва вакол ідэі міру. Вясна пераможа!

# ЧАМУ Ж АДСТАЕ ОПЕРА?

**Працягваем размову аб тэатральным мастацтве.**

**Сёння мы друкуем артыкул пісьменніка А. Бачылы. Наступнае слова — музычнаму крытыку Д. Жураўлёву.**

Алесь БАЧЫЛА

На старонках нашага друку за апошні час усё часцей абмяркоўваюцца праблемы сучаснай савецкай оперы. Гэта добра. Пара, нарэшце, ад агульных заклікаў аб неабходнасці стварэння сучаснай оперы перайсці да сапраўднага разгляду прычын адставання гэтага жанра.

...Я ўжо даўно заўважыў такую акалічнасць: як толькі з'яўляецца ў свет слабы твор, дык адразу пішацца на яго столькі рэцэнзій, што імі хоць грэблю масці. У той жа час значна менш з'яўляецца рэцэнзій на твор самабытны, арыгінальны, новы па матэрыялу і вырашэнню, пры разглядзе якога патрэбна выявіць свой густ, свае эстэтычныя погляды і даць абгрунтаваную ацэнку. Відавочна, каб заўважыць новае ці першыя, нават яшчэ нясмелыя, яго парасткі, трэба мець не толькі добрае мастацкае чуццё, але і быць па-сапраўднаму зацікаўленым у адкрыцці гэтага новага. З якой удзячнасцю ўспамінаем мы цяпер многіх вялікіх крытыкаў мінулага таму, што яны ў свой час смела адкрывалі новыя невядомыя імёны. І як шкада, што ў нас такіх крытыкаў цяпер вельмі мала.

Відаць, у крытыцы, якая павінна быць заўсёды наперадзе, дае сябе адчуваць скаванасць мыслення, прыхільнасць да ўжо гатовых схем, як спадчына таго часу, калі ўсе ацэнкі даваліся толькі ў катэгарычнай форме. Некаторым і цяпер уяўляецца, што дзвюх супрацьлеглых думак, дзвюх розных ацэнак твора існаваць не можа.

Адсутнічае сапраўдная зацікаўленая крытыка, глыбокая і грунтоўная, доказная і справядлівая, якая б сваёй бескарыслівай увагай і дасканалым аналізам садзейнічала фарміраванню самага складанага музычнага жанру — опернага. Адразу ж хочацца нагадаць тут словы вялікага рускага пісьменніка Льва Талстога, які гаварыў:

«Значэнне крытыкі ў тым, каб адзначаць усё тое добрае, што ёсць у тых ці іншых творах мастацтва, і кіраваць такім чынам думкаю публікі, густы якой у большасці грубыя і большасць якой не чулая да прыгожага.

... Асабліва бессэнсоўны і танны звычай крытыкаў выказваць адносна чужых твораў усе свае думкі, якія маюць з імі малую сувязь; гэта самая бескарысная балбатня».

Дарэчы, такая балбатня яшчэ не вывялася і цяпер. Аўтары асобных артыкулаў нават і не ставяць перад сабой задачы раскрыць аўтарскую задуму, глыбока прачытаць твор і паказаць яго станоўчыя і адмоўныя бакі. Звычайна такі крытык імкнецца навязаць аўтару сваю волю і, зыходзячы з таго, як яму хацелася б бачыць вырашэнне той ці іншай тэмы, і разглядае твор аўтара. А ў выніку — яго аналіз не толькі не дае аб'ектыўнай ацэнкі твора, але і дэзарыентуе самога аўтара. Ні для каго не сакрэт, што адна і тая ж тэма не можа быць аднолькава ўбачана некалькімі сапраўднымі мастакамі. Кожны яе вырашыць пасвойму.

Творчасць таму і называецца творчасцю, што ніколі не робіцца па загадзя вядомых рэцэптах ці ўзорах. Эталонаў тут няма і быць не можа. Кожны раз гэта «язда ў нязведанае». Адзінае, што можа служыць компасам у такой яздзе — правільнае разуменне ідэй і задач часу, канкрэтнае і глыбокае веданне той галіны жыцця, якая з'яўляецца аб'ектам адлюстравання.

У апошні час нават можна пачуць выказванні (са спасылкамі на факты шматлікіх творчых няўдач), што нібыта опера, як жанр, непрыдатная для паказу сучаснага жыцця, што яна аджыла ўжо свой век, а таму, маўляў, не варта і клапаціцца аб яе развіцці. Скажам адразу, выказванні больш чым дзіўныя. Оперны жанр не аджыў свой век. Яму, як і многім іншым музычным жанрам, наканавана доўгае жыццё. Аджылі толькі атрыбуты старой оперы. Тут, як і ў кожнай іншай справе, трэба ўмець своечасова ўбачыць парасткі новага і заўважыць тое, што ўжо стала тормазам далейшага развіцця. Практыка паказвае, што ніводзін жанр мастацтва не стаіць на месцы, ён увесь час мяняецца, як мяняецца і само жыццё, і эстэтычныя крытэрыі і запатрабаванні народа. Не ўлічваць гэтыя змены — значыць быць неаб'ектыўнымі суддзямі.

Нядаўна я прачытаў у газеце «Літаратура і мастацтва» артыкул Л. Александроўскай «На опернай сцэне». У ім старэйшы майстар опернага мастацтва выказвае шмат слушных думак. Асабліва каштоўныя канкрэтныя заўвагі пра работу акцёра-вакаліста над роллю, прапановы аб паляпшэнні выхавання маладых кадраў спевакоў, якім належыць стварыць яркія вобразы нашых сучаснікаў. Усе гэтыя парады, вядома, прынясуць немалую карысць тым, хто працуе на опернай сцэне. Аднак артыкул, асабліва першая яго частка, не адказвае на многія пытанні, пастаўленыя самім жа аўтарам. І не адказвае не выпадкова. Паспрабуем коратка ва ўсім разабрацца.

Якія ж гэта пытанні? Паколькі іх добра сфармулявала сама Л. Александроўская, я прывяду цытату. Вось яна:

«Чаму на нашых спектаклях гледачу часта бывае сумна? Чаму ён не хвалюецца? Чаму не заўсёды яго кранаюць вобразы оперных герояў?»

І, сапраўды, чаму? Каму ж, як не старэйшаму майстру опернай сцэны, трэба было паспрабаваць разабрацца ў гэтых пытаннях? Гэта пры ўдзеле Л. Александроўскай і на яе вачах ажыццёўлена пастаноўка чатырнаццаці оперных і балетных спектакляў. Матэрыялу для аналізу і вывадаў больш чым дастаткова. Аднак, у артыкуле гэты матэрыял не выкарыстаны таму, што тады трэба было б гаварыць не толькі пра здабыткі, вартыя далейшага развіцця. Справа ў тым, што наш оперны тэатр многія гады не меў сапраўднай рэжысуры, сапраўднага неспакойнага мастацкага кіраўніцтва, якое б шукала і новыя тэмы, і новыя формы, і новыя сучасныя праблемы, вырашаныя опернымі сродкамі. Нашу рэжысуру вель-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

